# ТРАНСПАРТНЫ ТРЭСТ МЕНГАРСАВЕТУ
## ВЫКАНАНЬНЕ ПРАМФІНПЛЯНУ ЗА ПЕРШУЮ ПЯЦІГОДКУ





Рост падвіжнога саставу





Перавозка пасажыраў у тыс.





Валавая выручка ў тыс. руб.

## УДАРНІКІ МЕНСКАГА ТРАМВАЙНАГА ПАРКУ


т. ШТАНЮК


т. КРЫУЧЫК


т. Я. ВЫГАНЕЦ

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВІК
АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 Тэл. № 17—09
АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ
САКРАТАР Я. ШАРАХОЎСКІ
АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

СТУДЗЕНЬ
№ 1 (73)
1 9 3 3
ГОД ВЫДАНЬНЯ IV



## ПЯЦІГОДКА СТВАРЫЛА НОВЫ ТЫП ЧАЛАВЕКА

1 студзеня—дзень ударніка.

Выдатнае значэньне гэтага дня вызначаецца тым, што ён зьяўляецца рубяжом двух пяцігодак. Наперакор усім цяжкасьцям і наперакор усім ворагам, *першая пяцігодка пераможна завершана.* Вялікі гонар выкананьня пяцігодкі за чатыры гады належыць ударніку—надзейнай апоры нашай партыі ў зьдзяйсьненьні шырокіх і сьмелых яе плянаў пабудовы сацыялізму.

Ударнік. Гэта слова ведае ўвесь сьвет. Яго гавораць ва ўсіх канцах сьвета адны з захапленьнем, другія з нянавісьцю. І дзіва няма, бо ў гэтым слове—вялікі сымбаль сацыялістычнага будаўніцтва, якое мае ва ўсім сьвеце шмат адданых прыяцеляў і шмат заклятых ворагаў.

Ударнік зьявіўся разам з пяцігодкаю. Пяцігодка зрабіла вялізарнейшы пераварот у эканамічным ладзе нашае краіны, завяршыўшы пабудову фундаманту сацыялістычнае эканомікі.

У бэтоне і мэталі, у дасканалым абсталяваньні новых сацыялістычных прадпрыемстваў увасоблена герaічная праца ўдарнікаў. Гэта ўдарнікі перамаглі стыхію Дняпра, пра непераможнасьць якое сьпявалі паэты. Гэта яны прарваліся ў нетры гары Магнітнай, перамаглі завеі Сібіры і стварылі ў глухім „таежным“ краі найвялікшыя заводы-унікумы. Нішто не магло спыніць гэтага бяспрыкладнага наступу: ні палючая гарачыня, ні лядовы холад, ні прошукі ворагаў, ні паражэнства малавераў. Рабочая кляса пад кіраўніцтвам партыі прарвалася да мэты праз усе перашкоды. *У гісторыі чалавека і нават у эпосе народаў няма прыкладу, які можна-б было параўноўваць з гераізмам творцаў пяцігодкі.*

Тую самую рэвалюцыйную палкасьць і ўпартасьць, якая не адступае ні перад чым, ударнікі ўнесьлі і ў аўладаньне тэхнікаю нанова пабудаваных і рэканструяваных прадпрыемстваў. Мы ўжо маем тысячу прыкладаў, як ударнікі бліскуча аўладалі новымі машынамі і перавысілі амэрыканскія нормы выпрацоўкі. Даволі паказаць на *СТЗ, ХТЗ і аўтазавод імя Сталіна,* якія маюць колькі хочаш падобных фактаў.

Пяцігодка—гэта ня толькі вельмі шырокае гаспадарчае будаўніцтва. Яна азначае таксама і найвялікшую пераробку людзей. *Пяцігодка стварыла ня толькі заводы і машыны, яна стварыла таксама і новы тып чалавека.*

Ударнік—загадка людзям буржуазнага лягеру, дзе пашырана перакананьне, што сацыялізм нібыта пазбаўляе людзей стымулу да працы. Абмежаваны розум буржуа бачыць адзіны стымул у пагоні за прыбыткам, а эксплёатацыю рабочых мае за адзіна-магчымую форму прадукцыйнае працы. Але-ж от у Савецкім Саюзе эксплёатацыя зьнішчана, а прадукцыйнасьць працы ня толькі ня зьнішчаецца, але сыстэматычна ўздымаецца ўгору. І да ўсяго гэтага, як з-пад зямлі вырас трохмільённы пласт ударнікаў, энтузіястаў працы, якія паказваюць цуды тэмпаў.

Кругавід буржуазнага сьветапогляду занадта вузкі, каб зьмясьціць даўно знойдзеную тэарэтыкамі пралетарыяту і цяпер даведзеную на практыцы нашымі ўдарнікамі ісьціну, што сацыялізм стварае нячуваныя стымулы да ўздыму прадукцыйнасьці працы, галоўны з якіх—усьведамленьне таго, што рабочы працуе *не на капіталіста, а на сябе, на сваю дзяржаву.*

Ударнік—жывы прыклад і ўзор сацыялістычнае дысцыпліны працы, што зьяўляецца краявугольным каменем новага ладу. Буржуазны друк у свой час з пенаю каля роту крычаў пра „няздольнасьць“ бальшавікоў стварыць якую-б там ні было дысцыпліну. Рэакцыянэры ўсіх краін ляялі нашу рэвалюцыю, пускалі паклёп, што рабочыя зруйнуюць і загубяць прамысловасьць.

*Жыцьцё паказала, што рэвалюцыя ўмее ня толькі ўшчэнт* ламаць старое, але і майстэрскі будаваць новае. Рабочая кляса выцягнула прамысловасьць з бяздоніцы зруйнаваньня, уваскрасіла з попелу і зломкаў і падняла на недасяжную вышыню. Вырашыць такую вялізарную задачу ўдалося толькі дзякуючы таму, што рабочыя стварылі моцную працоўную дысцыпліну. Гэта—відавочны факт і яго ня могуць адмаўляць нават нашы ворагі.

Сацыялістычная дысцыпліна дыямэтральна працілеглая дысцыпліне капіталістычнага прадпрыемства. Тая дысцыпліна заснавана на *клясавым прымусе.* Сацыялістычная-ж дысцыпліна заснавана на сьвядомасьці рабочых. Практычным выражэньнем сьвядомае дысцыпліны зьяўляецца сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, што ахапіла паводле ініцыятывы нашае баявое рэвалюцыйнае моладзі мільённыя масы рабочых і стала асноўным сродкам бальшавіцкіх тэмпаў. Спаборніцтва стала асноўным мэтадам сацыялістычнага выхаваньня рабочае клясы, асабліва новых рабочых, што прышлі з вёскі. Сіла і посьпех сацыялістычнага спаборніцтва такія вялізныя, што яно прайшло і ў вёску—у саўгасы і калгасы.

Ні сьвядомая дысцыпліна, ні спаборніцтва немагчымы пры капіталізьме, дзе праца служыць мэтам нажываньня эксплёататараў. Сьвядомая дысцыпліна і спаборніцтва зьяўляецца тады, калі праца становіцца сродкам вызваленьня рабочае клясы ад прыгнёту капіталізму, сродкам сацыялістычнага будаўніцтва. От чаму праца пры капіталізьме—цяжар для рабочага, а пасьля таго, як скінута ўлада буржуазіі, яна становіцца пачэснаю іх справаю. Рабочая кляса, што вызвалілася ад прыгнёту эксплёататараў, узьвялічыла і ўзвысіла працу і ператварыла з *„ганебнага і цяжкага ярма, якою яе лічылі раней, ў справу гонару, ў справу славы, у справу адвагі і геройства“.* Гэтыя словы тав. *Сталіна,* правадыра партыі і першага ўдарніка рабочае клясы, зьяўляюцца сьцягам ударнага руху.

Сьвядомая працоўная дысцыпліна не знаходзіцца ні ў якай супярэчнасьці з спосабамі эканамічнага прымушваньня, якія пралетарская дзяржава ўжывае супраць недысцыплінаваных элемэнтаў з рабочых, у прыватнасьці прагульшчыкаў.

Ужываючы жорсткія захады супроць прагульнікаў, абібокаў і дармаедаў, савецкая ўлада ўмее цаніць тых работнікаў, што аддаюць усе свае сілы і ўмельства справе бальшавіцкіх тэмпаў. *Ударніку ў Савецкай краіне—павага і першае месца ўсюды і ва ўсім.*

Праўда, гэты прынцып на практыцы ў некаторых выпадках парушаецца, падмяняецца „лявацкаю“ ураўнілаўкаю, і вінаваты ў гэтым мясцовыя гаспадарчыя кіраўнікі і профсаюзныя эрганізацыі. Аднэю з важнейшых задач масавае работы ў сувязі з днём ударніка павінны быць уважлівая праверка практычнага зьдзяйсьненьня паказанага прынцыпу і рашучае спыненьне ўраўнілаўкі, а таксама ачыстка радоў ударнага руху ад ілжэ-ўдарнікаў.

Ударны рух узьнік у змаганьні рабочае клясы за бальшавіцкія тэмпы індустрыялізацыі супроць капітулянскіх установак правага апартунізму, які спрабаваў сьпіхнуць партыю на пагібельны шлях, на шлях рэстаўрацыі капіталізму. Ударны рух, што ахапіў у кароткі тэрмін самыя шырокія колы рабочых на ўсіх фабрыках і заводах краіны, выражаў і выражае бязумоўнае падтрыманьне генэральнае лініі партыі з боку рабочае клясы.

*Першая пяцігодка завершана! Няхай жыве другая пяцігодка! Няхай жывуць ударнікі—гераічныя будаўнікі сацыялістычнага грамадзтва!*

**БАРЫС МІКУЛІЧ**

# Тэнар



Вы ведаеце, што такое тэнар? Вы ведаеце, што за чалавек той, хто валодае звонкім сакаўным тэнарам? Вы кажаце—актор? Вы кажаце—прыемна паслухаць? Гэтага мала. Давайце, я абмалюю яго вам.

Ромка Чэшыхін быў у палкавой школе. Ён разам з усімі курсантамі старанна адседжваў гадзіны на тэарытычныя заняткі гадзіны, і мозак ягоны прагна ўбіраў цяжкія законы вайсковай тэхнікі. Тут, на тэарытычных занятках, гэта быў звычайны чырвонаармеец, звычайны курсант палкавой школы, адзін з многіх.

Але ёсьць паходы.

Пасьля гэтых паходаў можна распрануцца і выкруціць мокрую бялізну, і целы тады пакрываюцца густой парай. Пасьля гэтых паходаў можна абмацаць намуленыя ногі і доўга думаць над праблемай закручваньня парцянак. І пасьля першага-ж далёкага паходу закручваць парцянкі навучышся абавязкова.

Малюнкі АРЛОВА



Ён ірвануўся праз усю залю за ёй на лесьвіцу.

Але ёсьць паходы. І досыць цяжкія. І пыльнымі гарачымі дарогамі або мокрым бездарожжам ня надта слухаюцца людзей ногі. І тады камандзір дае загад „Песьню!“ Песьню! І вось тэнар пачынае яе—якую-небудзь „Далёкаўсходнюю“—яе падхопліве ўсё падразьдзяленьне,—вы разумееце тады, што такое ў паходзе песьня? Вы разумееце важнасьць і пашану тэнару. Ён—пачынальнік песьні, а з песьняй паходы і пераходы—лягчэйшыя.

Ромка Чэшыхін валодаў звонкім сакаўным тэнарам.

— Лепшы тэнар на ўвесь полк,—казалі пра яго таварышы.

— Ды што на полк! На ўвесь корпус,—дадавалі іншыя.

Над палкавой школай шэфам быў пэдінстытут. Наладжвалі сумесныя вечары, і доўга і старанна танцавалі пасьля гэтых вечароў. Танцы! Хм... Можна таксама выкручваць бялізну. Танцы! Хм... Можна таксама думаць над праблемай парцянак. Але гэта прыходзіць потым.

А покуль што Ромка Чэшыхін танцаваў з Галяй. Ён краем вока сачыў за яе расчырванелым тварам, за бляскам у вачох—глыбокіх, глыбокіх.

— Як ваша імя?

— Галя.

— А прозьвішча?

— Круглікава.

— Вы вучыцеся?

— Вучуся.

— На якім курсе?

— На другім.

Колькі разоў абыйшлі залю, наляцелі ў рытме на парачку танцораў. Зноў закруціліся ў вальцы.

— Як ваша імя?

— Раман.

— А прозьвішча?

— Чэшыхін.

— Вы ў палкавой школе?

— Ага.

— Будзеце камандзірам?

— Буду камандзірам.

Яна зарагатала па-дзявочаму гучна і, стрэліўшы ў яго вачыма, зьнікла ў натоўпе студэнтаў. Чэшыхіна нібы варам абдалі. Ён ірвануўся праз усю залю, за ёй, на лесьвіцу, у начную вуліцу. Срабрысты яе сьмех разьліваўся ў цемры.

— Таварыш Круглікава! Галя!..

Яна рэзка павярнулася.

— Мне трэба сьпяшацца, заўтра канфэрэнцыя. Спакойнага сна, таварыш Чэшыхін!

І зьнікла.

Наступныя выходныя дні Чэшыхін гуляў каля пэдінстытуту, спадзяючыся сустрэць яе. Аднойчы ён убачыў яе ў купе студэнтаў, кіўнуў галавой, але яна не адказала. У той вечар не хацел ся, ідучы па шумлівых вуліцах, зазіраць у дзявочыя твары, кідаць наўздагон ім жарты—пякучыя і лёгкія. Нёс у грудзях Чэшыхін абразу сваёй маладосьці і—прынёсшы яе ў казарму—пакінуў разам з парцянкамі ля ложку.

Парцянкі высыхалі.

— От падумаеш, прыгожы! От падумаеш, сьпявае добра!—сыпала Галя сваім сяброўкам, якія ўпотайку зайздросьцілі ёй.—Ці мала добрых сьпевакоў. І Яшка глотку можа разявіць, ды так, што ў вушу зазьвініць.

Былі паходы.

У гэтых баявых паходах прышла вясна.

Сонечным травеньскім днём прышлі шэфы ў палкавую школу і іхны прыход вітала лісьце на бярэзьніку.

Перад імі ляжала поле, дзе-ні дзе зелянела на ім купаўе. Камандзіры жартам страшылі дзяўчат:

— Трымайцеся! Будзе страшна.

Правяралася баявая падрыхтаванасьць курсантаў.

Грозна, магутным упэўненым тулавам поўз танк. Здавалася, ён паўзе на натаўп людзей, што, прытаіўшы дыханьне, сачылі за ім. Але раптоўна ён зьмяняў кірунак, і грузка асядала ягонае тулава, зноў потым выпаўзаючы на ўзгорку.

— Рыхтуйся!

Танк поўз, зьменьваючы кірункі. І адсюль было відаць, як адна за адной ляцелі ў ягоным напрамку гранаты і потым пошчакам рассыпаўся грукат выбухаў.

А танк поўз.

Усе напружана сачылі за лётам гранат—ні слова, ні гуку, ні лішняга гэсту, адно толькі і было: разрывы і кругаверць, кругаверць пылу, зямлі і каменьня.

І раптам сярод камандзіраў пачуўся рух і сьціплыя рэплікі,—гэта прымусіла і гасьцей-шэфаў яшчэ мацней залучаць сваю ўвагу. Граната ўпала ля самага танку і, здавалася, танк прыпыніў хаду. Але гэтак толькі здавалася. І вось другая гармата—і пыл, і зямля, і каменьне, і кругаверць гаманы:

— Зьбіў!

— Разьлік дакладны.

— Ды і трэніроўка, практыка добрая!

Рэдакцыя школьнай ільлічоўкі працавала ўдарна: тут-жа, на полі, была выпушчана газэта і першым чынам гаварылася ў ёй наступнае: „Курсант Раман Чэшыхін зьбіў танк з другога разу, паказаўшы гэтым сваю баявую падрыхтаванасьць. Раман Чэшыхін—лепшы курсант палкавой школы.

— От гэта здарава!—сказала да Галі Круглікавай яе сяброўка, але тая толькі гарэзна засьмяялася і пабегла даганяць купку студэнтаў, што ішлі аглядаць лягер. Сяброўка пасьпяшалася за ёю.

Ішоў вечар.

Небам плылі мярэжы аблакоў. Заходзіла сонца і зьмянялася афарбоўка іх: спачатку аблокі былі матавымі, нібы павучыньне на восеньскім полі, потым яны набрынялі ружовасьцю, і вось гэтая ружовасьць блякне, страчваецца, аблокі сінеюць. Зьменьваюцца колеры ўсёй зямлі.

Ішоў вечар.

Канчалася на спортпляцоўцы калектыўнае спаборніцтва ў валейбол. Недзе, за палатнянымі палаткамі, зайграў гармонік і лісьце бяроз азвалася на гэтае граньне, лісьце зашалясьцела ціха і ласкава.

Да Ромкі Чэшыхіна падышла Галя. Ён быў потны, ўсутурбаваны ад гульні, ад перамогі, ад маладосьці. Высока ўзьнімаліся грудзі. Твар цьвіў усьмешкай.



Граната ўпала ля самага танку

— Добры дзень. Пазналі?

— Добры вечар. І вы мяне пазналі?

Яна хвіліну маўчала, цярэбячы пальцамі хусьцінку. Гэтай хвілінай на ілбе ў яе зьявілася маленькая зморшчынка.

— Ну, як вас не пазнаць! Вы-ж сёньня герой, пераможца,—сказала яна.

Вочы стрэліся. І нечакана сьціх за палаткамі гармонік. І сьціхла шалясьценьне бярозавых лістоў. І ня было чуваць чалавечых галасоў на спортпляцоўцы. Здавалася: усё навакольнае стварыла гэтую паўзу для іхных вачэй, для іх адных.

— А вы... вы шмат разоў не пазнавалі мяне. Помніце?

— Не... Ня помню, Раман...

Хвіліна—і ён-бы схапіў яе, сьціснуў-бы дужымі сваімі рукамі—яе, гэтую жанчыну, якая адчула ў ім маладосьць і дужасьць, якая назвала яго так проста і так разам з тым мякка—імя назвала.

— Дзіўна!—тут трэба было-б усьміхнуцца, але замест усьмешкі атрымалася іронія.—Дзіўна! А я гэтую зіму вучыўся. Вас аддаліць вучобай хацеў... Забыцца на вас.

У вечаровай цішыні зайгралі гарністы. З розных бакоў лягеру пачалі сыходзіцца да клюбу.

— Прыдзіце, Раман, да мяне,—сказала яна і ў голасе прагучэла прабачэньне.—Я вас буду чакаць...

Ён не адказаў. Ён падбег да турніка, падцягнуў свае тулава, колькі разоў перакруціўся на ім,—і яна бачыла, як туга захадзілі на ягоных руках біцэпсы.

— Прабачце,—сказаў ён, па-ранейшаму зьзяючы ўсьмешкай.—На паверку бегчы трэба.

І пабег.

Яна колькі хвілін стаяла ў задуме. Здавалася, павінен быў прагучэць адказ на яе просьбу. Але ён не прагучэў.

Бабруйск.

23 ліпеня, 1932 г.

С. ЛАЎРЭЦКІ

# Шлях Германа Пэтша

*Нарыс*

Вайна 1914-17 гадоў акрыліла буржуазію краін-пераможцаў. Калёніі, сфэры ўплыву, рынкі былі нанова пераразьмеркаваны. Але апэтыты яшчэ не суняліся. Адбываўся гандаль за кошт акупаванай Савецкай Расіі. Адбываўся гандаль за кошт пераможанай Нямеччыны. Нямеччына перажывала паласу рэвалюцыйных выступленьняў, якія былі нібы ўспышкамі пасьля Спартакаўскага паўстаньня.

Яшчэ ня сьціхлі стрэлы, накіраваныя ў правадыра нямецкіх камуністаў—Карла Лібкнэхта.

Лейпцыг, як і шэраг іншых гарадоў Нямеччыны, перажываў бурныя дні...

Бязвусы семнаццацігадовы падлетак расклейваў камуністычныя лістоўкі на сьценах дамоў, заводаў, на парканах. Закідваў у пад'езды рабочых кватэр, запіхваў у скрынкі рабочых месц, сваім таварышом па працы.

Гэта было у 1919-20 гадох.

І гэта быў Герман Пэтш.

Раскаты ад выбухаў знарадаў яшчэ гучэлі на Беларусі. Адгалоскі грамадзянскай вайны у Савецкай Расіі, ня ведаючы перашкоды, далятаді да Лейпцыгу.

Газэты купляліся нарасхват. Кожны хацеў ведаць—„Хто пераможа?"

Паўстаўшы народ ці белыя арміі, узброеныя саюзьнікамі. Сачылі і прагна, як паветра, хапалі навіны з газэт.

Адны—з сыгараю ў тоўстых вуснах, з якіх ня зьнікае самаздаволеная ўхмылка багатага чалавека і які жадае перамогі генэральскім зграям.



Г. Пэтш растлумачвае рабочаму апрацоўку дэталяў.

Фото МАЗЗЛЕВА



Тав. Г. Пэтш за працай ля варштату.

Гэтая група яшчэ не забылася на паўстаньне спартакаўцаў, калі даводзілася дрыжаць за сваю кішэню, за банкі, за фабрыкі, заводы, маёнткі.

Другія—з прагнасьцю паглыналі навіны, разносілі вестки пра перамогі Чырвонай арміі ў кватэры, заводы, маёнткі. Радаваліся за расійскіх братоў—рабочых і сялян. і сьціскалі моцна зубы, хмурылі лоб, супілі бровы, калі здаралася затрымка на фронце. Гэтыя яшчэ таксама не забыліся на паўстаньне спартакаўцаў.

Не забыліся на крывавую оргію, што спраўлялі капіталісты на трупах пераможаных рабочых.

І таму ішлі на заводы, агітавалі супроць пропуску праз Нямеччыну ваенных прылад для белапольскай арміі „маршалка" Пілсудзкага.

У ліку іх быў і Герман.

Заціхла грамадзянская вайна ў Савецкай Расіі, Зграі, якіх падтрымлівалі саюзьнікі, паўцякалі да гаспадароў, падціснуўшы хвасты...

Ангельскі і францускі генштабы падлічвалі колькасьць забітых, пакалечаных, параненых за гады вайны. Канцэрны „Шнэйдэр і Ко", „Крэзо" і інш. падлічвалі прыбыткі ад вайны. Падлічвалі, у колькі разоў павялічыўся капітал за пралітую „гарматным мясам" кроў.

Прадпрыемцы Лейпцыгу, як і іншых гарадоў Нямеччыны, выціскалі з рабочых, што толькі маглі. Спаганялі пагрsucc капіталы.

А таму—52-гадзінны працоўны тыдзень. А таму—35 марак за тыдзень.

35 марак, якіх ледзь-ледзь хапала, каб сьцягнуць канцы з канцамі. Кватэра, ежа, адзеньне, забіралі ўсё без астачы. На культурныя патрэбы нічога не заставалася. Рэфармісцкія прафбюракраты лямантавалі пра абяднелую касу капіталістаў, лямантавалі з пенаю у роце „працаваць і не баставаць", бо гэтага вымагае нацыянальны гонар—патрыятызм (!?).

І так цягнулася да 1928 году. Балбатня рэфармістаў абрыдла. У нізавых прафзьвеньнях сталі працаваць камуністы.

І вось аднойчы на электразаводзе „паважанай" кампаніі „Крэтынг і Матысэн" у няўрочны час гудок настойліва патрабаваў усіх на заводзкі двор.

Патрабаваў—кідаць працу.

З цэху ў цэх чулася адно аб'ядноўчае слова—

„штрайк",

„штрайк",

„штрайк".

Гэта была забастоўка.

У стачачны камітэт абралі камуніста Германа Пэтша.

Мінуў месяц. „Паважаная" кампанія не пажадала палепшыць умовы працы. Ужо сям-там чуліся словы маладушных:

— Даволі баставаць!

— Час на працу!

І Герман склікаў стачачны камітэт, які вынес пастанову: „Баставаць да перамогі“!

Агітаваў за працягваньне забастоўкі.

У канцы другога месяца „Крэтынг і Матысэн“ прымушаны былі задаволіць патрабаваньні рабочых і падпісалі ўмовы.

„Паважаная“ кампанія ня можа дараваць Пэтшу яго актыўнага ўдзелу ў стачцы. Таму неўзабаве зьявіўся загад пра скарачэньне Германа і ўсяго складу стачкому з заводу. Зноў гудок. І „Крэтынт і Матысэн“, сьцяўшы зубы, скасоўваюць свой загад.

Герман праводзіць работу па вярбоўцы ў кампартыю, не зважаючы на ўсю дэмагогію сацыял-дэмакратаў, што працавалі на гэтым заводзе.

Але вось у 1929 годзе пачынае лютаваць крызіс.

Электразавод згортвае выпрацоўку прадукцыі.

І ў першую чаргу звальняецца камуніст, кіраўнік забастоўкі, член заўкому—Герман Пэтш.

Голад прымушаў шукаць працы, карыстацца мімалётнай капейкай. Армія беспрацоўных ўзрастала і ўзрастала. Надзеі на працу ня было.

А ў гэты-ж час Савецкі Саюз перажывае бурны рост усёй народнай гаспадаркі.

Камуністычная прэса Нямеччыны піша пра вялізарны рост і разьвіцьцё ў краіне саветаў. Піша пра тое, што беспрацоўе ліквідавана, што патрэбны тысячы высокакваліфікаваных рабочых.

І вось у 1930 годзе Герман прыяжджае ў краіну саветаў, каб сваёй працай дапамагчы будаваць сацыялізм.

Ідзе працаваць на завод імя Варашылава.

Ударны квартал другога году пяцігодкі патрабаваў усіх сіл і энэргіі, каб ліквідаваць прарыў на заводзе. Патрабаваў сапраўдных, бальшавіцкіх тэмпаў работы. І камуніст Герман, які ня ведае мовы, ня можа як сьлед перамовіцца, бярэцца за працу. Хутка ён паказвае ўзоры працы, якой трэба павучыцца.

Але дзе-ні-дзе раздаюцца галасы:

— Далі немцу 250 рублёў на месяц не затым, што ён добры работнік, а затым, што ён з-за мяжы.

Ударнай працай Герман давёў гэтым ныцікам, як трэба шпарка і дабраякасна працаваць. Паказаў тэмпы і якасьць. Карта ныцікаў была пабіта.

За ўдарную працу ва ўдарным квартале другога году пяцігодкі Герман быў прэміяваны. І тады да яго пацягнуліся за парадаю; так-сяк блытаючы мову, зьмешваючы нямецкія, яўрэйскія і расійскія словы, Герман тлумачыў, як трэба рабіць.

Раскрываў „сакрэт“ працы. І вось тут ныцікі даведаліся, што ён разумее ў працы больш за іх, што яго ацанілі як сьлед. Нават п'яніца Чатырка і той сказаў:

— Я працую даўно, але такіх работнікаў сустракаў мала.

Майстра інструментальнага цэху, дзе працуе Пэтш, у гутарцы гаворыць:

— Гэткіх работнікаў больш-бы нам. Ён робіць усякую работу шпарчэй і лепш, чымся нашы сьлесары, яго-ж разраду. Ён вельмі моцна тэхнічна падкаваны. Нашым сьлесаром не хапае ягонай дакладнасьці і ведаў.

Гэтая кароценькая характарыстыка не патрабуе камэнтарыяў. Яна паказвае Германа Пэтша такім, як ён ёсьць у сапраўднасьці.

Пэтш упарта вывучае расійскую мову. Ён ужо крыху чытае і піша. У гэтым яму ніхто не дапамагае. Веданьне расійскай мовы дапамагло-б яму перадаць свой вопыт моладзі і нават старым рабочым заводу. Гэта, бясспрэчна, нікога з заводзкай грамадзкасьці не датычыць. Неведаньне расійскай мовы, як належыць, не дае магчымасьці поўнасьцю аддаць сябе на службу сацыялістычнай будоўлі.

І калі бываюць сходы, Герман падсаджваецца да экспэрантыста Эльзінда і прагна ловіць пераклад прамовы, якую яму яшчэ цяжка зразумець самому. Дае свае заўвагі, як лепш наладжваць працу ў вытворчых буднях.

За час сваёй працы ён падаў шэраг рацыяналізатарскіх прапаноў, якія павышаюць якасьць выпускаемай прадукцыі. Зрабіў цэлы шэраг зьмен у гертэнсы вырабляемых прылад, чым патаніў іх кошт.

За ўсю сваю ўдарную працу Пэтш тры разы прэміяваны.

Так Герман Пэтш з падняволънага рабочага „дэмакратычнай“ Нямеччыны стаў вольным рабочым, лепшым ударнікам рамонтна-інструментальнага цэху заводу імя Кліма Варашылава і праходзіць слаўны шлях рабочага-ўдарніка краіны Саветаў, героя першай пяцігодкі.



**Электрыфікуем савецкія чыгункі**

На здымку: Праверка электрыфікаванай стрэлкі на пунях ст. Ленінград.

студэнтаў, навуковых работнікаў, дактароў і хімікаў. У гэтым сіла фабэраўскай навукі, купленай за асабнякі, за золата і раз'гульнае жыццё. Буржуазныя бандыты ўсялякім машэнствам выкарыстоўваць навуку для сваіх клясавых мэтаў і задач. Рыхтуючы новую бойню, капіталісты прыкрываюць навукаю панаваньне кучкі бандытаў і генэралаў, пушчаюць у вочы пыл „аб'ектыўнасьці“ і „гуманнасьці“. Уступіўшы ў вайну, гэта фабэраўская „гуманнасьць“ ператвараецца ў тысячы тон атрутных матэрый, у мільёны маладых сакавітых жыцьцяў, што стануць абугленымі трупамі.

Фабэраўская палюбоўніца Ірма просіць прафэсара не страшыць яе голадам і рэвалюцыяй. Яна захапляецца вялікасьцю яго розуму. Яна верыць, што Фабэр і ў новую буру прыдумае нешта незвычайнае, як тады, у чатырнаццатым, і ўсё будзе добра.

Але можа яна памыляецца?

Там навука, якая павінна быць накіравана на ўздым чалавецтва, пазбаўлена правоў грамадзянства, адпушчана на дзесяцігадовыя канікулы. Там інтэлігенцыя звальняецца з работы, бадзяецца без прытулку па скверах і садах, рэжа абедае і не ходзіць у лазьню. Там сытна жывуць і шырока спэкулююць інтэлігенты-шкурнікі, інтэлігенты-забойцы, інтэлігенты-бандыты. Там багата аплачваецца навука служанка, навука-пакаёўка, навука-лёкай кучкі фінансістаў і ўладзеяў.

Расьце і квітнее навука вайны. Не перажывае ніякага крызісу толькі тая прамысловасьць, што вырабляе сродкі зьнішчэньня чалавецтва. Багата аплачваюцца вынаходзтвы зброі і ўтончаных, „цывілізаваных“ прылад катаваньня. Сытна жывуць усе гэтыя обэршэльмы ад навукі, што ўзьнімаюць тост разбэшчанага жыцьця над морам сьлёз, крыві і поту.

■

У Савецкім саюзе навука атрымала самыя пашыраныя правы і найлепшыя ўмовы для росту і разьвіцьця, для выяўленьня сваіх новых патэнцый. Толькі наша навука зусім не падобна на буржуазную, на навуку „мёртвай літары ці модлай фразы“ (Ленін. Савецкая навука разьвіваецца на ленінскай аснове—на ўказаньні, „каб навука сапраўды ўваходзіла ў плоць і кроў, ператваралася ў сустаўны элемэнт быту да канца і сапраўдным чынам“.

Наша, савецкая інтэлігенцыя мае зусім іншыя сацыяльныя карані і клясавыя задачы. Перад савецкімі навуковымі работнікамі адкрыты ўсе сэмафоры для іх велаў, для іх энэргіі, для іх навуковых досьледаў, накіраваных на рост чалавецтва, на стварэньне новых форм грамадзкіх адносін, новых грамадзкіх каштоўнасьцяў.

У Савецкай Беларусі ў 1921 годзе было семдзесят шэсьць навуковых працаўнікоў. У дваццаць восьмым годзе стала пяцьсот дванаццаць. Да пачатку шаснаццатага году рэвалюцыі колькасьць работнікаў навукі вырасла да дзьвёх тысяч чалавек.

Людзі нашай навукі растуць з нетраў рабочай клясы, з гушчаў працоўнага сялянства. Іван Дашчаты, начальнік рамоннага цэху заводу імя Мясьнікова, патомстэнны пралетар, быў байцом дзьвёх рэвалюцый для таго, каб сын Алег стаў навуковым спэцыялістам інстытуту прамысловасьці, каб сын Яўген стаў ударнікам-гідратэхнікам, каб дачка Галіна канчала інстытут і жынэра-будаўнікоў. Дырэктар Гомельскага заводу імя Ланцуцкага, Іван Хімакоў, быў





Фото І. Салавейчыка

т. Дарожкін, т. Ганчарык
Маладыя савецкія вучоныя

змагаром, камандзірам партызан, камісарам вузла, каб яго сыны і дочкі сталі спэцыялістамі індустрыі, спэцыялістамі мэдыцыны. Чэрвенскі кравец Абрам Гантман сваімі рэбрамі (пасьля белапольскага налёту ён ходзіць з сураным гарсэце, змацаваным жалезнымі абручамі) заваяваў месца аднаму сыну у адной з нашых акадэмій, двум сыном ганаровую годнасьць чырвоных камандзіраў, чацьверты стаў электратэхнікам.

Адсюль, з гэтых магутных пластоў, з гэтых жыватворчых крыніц вырастае наша навуковая і тэхнічная інтэлігенцыя, уласная інтэлігенцыя рабочай клясы.

Па ўсіх навукова-дасьледчых установах (іх да рэвалюцыі, натуральна, зусім не было ў „Северо-западном крае“, а цяпер у БССР пяцьдзесят чатыры) распрацоўваецца ў 1932 годзе тысяча пяцьдзесят пяць навуковых тэм. З гэтых тэм — па прамысловасьці—дванаццаць пяць процантаў, па сельскай гаспадарцы — трыццаць чатыры. Рэшта—гістарычныя, філёзофскія і мэтадалёгічныя.

Савецкім вучоным, савецкім інжынэрам на кожнага хапае работы за трох. У іх няма часу для вольнага часу. У ауладаньні навукай і тэхнікай, у ператварэньні навукі „у плоць і крою быту“ вельмі кароткімі здаюцца суткі і дні скачуць так няпрыкметна.

Былы пастух, камуніст Дарожкін, скончыў гарацкую сельска-гаспадарчую акадэмію, стаў вучоным спэцыялістам інстытуту біолёгічных навук і цяпер абараняе савецкую бульбу ад атрутных і злых польскіх бацылаў. У большасьці паветаў у Польшчы вельмі пашыран бульбяны рак. Ён зьядае у краіне на адной толькі бульбе дзесяткі мільёнаў злотых. Гэты рак можа праз мяжу пе з кінуцца ў Савецкі Саюз і нанесьці народнай гаспадарцы страшэнныя страты. Дарожкін, як пільны пагранічнік, узброены мікраскопам, хіміяй, ахоўвае свой вучастак сацыялістычнага будаўніцтва.



Гатункі сої ў біолёгічнай лябараторыі

Па дакладу навуковага спэцыяліста беларускай акадэміі навук тав. Дарожкіна кіраўніцтва ўсебеларускага аб'яднаньня барацьбы са шкоднікамі пастанавіла:

„лічыць патрэбным саджэньне бульбы ў пагранічнай паласе выключна трывалым супроць бульбянога раку магэрыялам і не арганізоўваць там апорных пунктаў для размнажэньня бульбы. Тэрмінова распрацаваць мерапрыемствы па папярэджаньні заносу бульбянога раку з Польшчы пры бытавых сувязях з ёю".

Дарожкін правёў вялікую работу па вывучэньні раёнаў на заражанасьць бульбы парашыстай паршой, выяв ў упяршыню ў СССР пухірчастую чорную хваробу сьцяблоў бульбы. Усесаюзны Наркамзем, на аснове гэтых навуков х дасьледваньняў, прапанаваў увесьці ў раёнах захворваньняў адпаведны карантын. Своечасовае папярэджаньне ад масавых захворваньняў бульбяных масываў, актыўн я барацьба са шкоднікамі зьберажэ краіне мільёны ад страт.

На сьнежаньскай сэсіі Акадэміі Навук, прысьвечанай праблемам уздыму ўр джайнасьці, былы пастух, вучоны спэцыяліст тав. Дагожкін выступіў з цікавым дакладам аб ролі хіміі ў барацьбе са шкоднікамі збожжавых і бульбяных культур.

Вучоны спэцыяліст М. Ганчарык шматгадовым вывучэньнем і практыкай дасьледваў магчымасьць масав га вырошчваньня ва ўмовах Савецкай Беларусі новай культуры соі на зерне і корм. У рэзультаце гэтай работы магчымая мяжа вырошчваньня соі ў Саюзе геаграфічна перасунута з-за Смаленску на лінію Менск—Ворша.

Ганчарык правёў шматгадовую работу па вывучэньні ўмоў найлепшага захаваньня азімых культур, адбору найбольш устойлівых сартоў, вывучае магчымасьць размнажэньня новых высокаёмкіх расьлін, і на сьнежаньскай сэсіі акадэміі навук дакладваў аб праблеме новых культур у БССР.

Група спэцыялістаў інстытуту прамысловасьці вынайшла новую найбагацейшую сыравіну для папяровых фабрык, зрабіла магчымым перапрацоўку ільняной кастры ў высокія гатункі паперы.

Людзі нашай навукі займаюцца праблемамі сацыялістычнага будаўніцтва, ператвараюць навуку „у плоць і кроў, у сустаўны элемэнт быту", робяць навуку магутным фактарам росту чалавецтва.

У гэтым сіла і крэпасьць нашай навукі. Сіла і крэпасьць савецкай навукі ў тым, што яна ўзьнімае ўсю нашу народную гаспадарку, робіць Савецкі саюз магутным і няпрыступным, як гранітная скала. Самы старэйшы дэлегат шостага ўсесаюзнага мэндэлееўскага хімічнага зьезду, акадэмік Каблукоў у сваім выступленьні запэўніў краіну, што на ўсякі буржуазны газ знойдзецца савецкі працівагаз.

Яшчэ сіла нашай навукі і культуры ў тым, што яна робіцца рукамі да канца рэвалюцыйнай непераможнай класы. Людзей для навукі, для культуры, байцоў калёны уласнай інтэлігенцыі, рыхтуюць створаныя рэвалюцыяй сорак тры дзённых і вячэрніх беларускіх ВТНУ, ВНУ з нацыянальнымі аддзяленьнямі, сто трыццаць тэхнікумаў, шэсьцьдзесят адзін рабфак, тысячы палітэхнічных школ. А ідзе ў іх моладзь з менскіх і гомельскіх заводаў, бабруйскіх саўгасаў, з полацкіх і мазырскіх калектыўных гаспадарак.

Германскі прафэсар Альфрэд Шток, запрошаны на даклады ў Амэрыку, у Карналеўскім унівэрсытэце пачаў сваю уступную лекцыю такімі словамі: „Ці ня робіцца тэхналёгія бічом чалавецтва, ці не вядзе навука і тэхніка да разбурэньня нашага эканамічнага жыцьця, да атрутваньня культуры?"

У той-жа час нью-ёркскі орган фінансавых колаў „Уоллстрыт джорнэль" піша:

„Ня будзе перабольшаньнем сказаць, што на сьвеце няма ніводнай важнай галіны прамысловасьці, жыцьцёвым інтарэсам якой не пагражала-б навука. У любы момант навука можа ператварыцца ў сьмяротнага ворага прамысловасьці. Навука, пры дапамозе якой будуецца новы завод, зьнішчае стары".

Так хоча расправіцца з навукаю эўрапэйская і амэрыканская буржуазія, зайшоўшы ў бязвыходны тупік.

Веры Паўлаўне, гераіні раману вялікага рэвалюцыянэра Чарнышэўскага „Что делать?" прысьніўся хрустальны палац, у якім пасяліўся цёмны забіты народ. Вера Паўлаўна сумнявалася: „Няўжо-ж гэта мы? Няўжо-ж гэта наша зямля? Я чула нашы песьні, яны гавораць па-расійску"...

Хрустальны палац—гэта бадай самы першы яркі псэўдонім будучага камуністычнага грамадзтва, уведзены ў рускую літаратуру Чарнышэўскім. Тады буржуазія дзесяткі гадоў зласьліва хіхікала над хрустальным палацам, высьмейвала ідэі камунізму, як наіўны сон, як мыслі безнадзейна хворай галавы.

Тады Дастаеўскі абліў ядам сваіх „Бесаў" і хрустальны палац і яго аўтара.

Будучы на высылцы, у сваім рамане Чэрнышэўскі казаў Веры Паўлаўне:

„Зьменіцца шмат пакаленьняў раней чым да канца ажыцьцёвіцца тое, што ты цяпер прададчуваеш... Гавары-ж усім: вось што ў будучым, будучае сьветлае і прыгожае. Любеце яго, імкнецеся да яго, працуйце для яго, набліжайце яго. Пераносьце з яго ў сучаснае, колькі можаце перанесьці". Мы бачым хрустальны палац не ва сьне, а на яву. І гэты палац ствараецца ў суровых умовах, у клясавай барацьбе, у пераможнай барацьбе, праз тысячы труднасьцяў. І гэты палац будуецца двума-трыма пакаленьнямі. Кляса, яе уласная інтэлігенцыя, узброеныя навукай і тэхнікай, працуюць для камунізму, набліжаюць камунізм, бяруць з яго цэлыя вялікія кавалкі, пераносяць у сёньня і гэтым самым разбураюць стары сьвет, буржуазнае грамадзтва.



Акадэмік Кулагін

## Да сьнежаньскай сэсіі Акадэміі Навук БССР

Фото Маззлева і Я. Ліўшыца



Прэзыдыум сэсіі. Зьлева на права: акад. Афанасьеў, акад. Кедраў-Зіхман, неадменны сакрат. БАН Панкевіч, віцэ-прэзыдэнт Якуб Колас, акад. Кулагін і прэзыдэнт БАН тав. Горын



Акадэмік Афанасьеў

А. ГУРЛО

# ВІТАНЬ ТАБЕ!

Вітань табе, калгасная вясна!
Вітань табе, араты калектыву!
Прыш а пара ўжо працу пачынаць—
Руплівасьці твае чакае прагна ніва!

Паволі растае цукрова-белы сьнег.
Ужо цурчыць вада на раўчуках з узгоркаў.
Ўсё гімн пяе адноўленай вясьне.
Бляск песьціць ласкаю, а далі вабяць вока.

Ды далі ўжо ня тыя, што былі:
Яны цяпер—бяскрайнасьць і бязьмежжа!

Ня раз на іх ўжо трактары гулі—
Ўздымалі цаліну запалынелых межаў.

Саха кульгавая ўжо адышла ў нябыт—
Ня бачыць ёй ранейшай вузкай нівы!
Ня тыя ўжо араты і быт—
Ня панскія рабы, а члены калектыву!

Усё працінае скрозь індустрыі агонь:
І трактар і камбайн патрэбай сталі пільнай.
Вітань табе, сталёва-моцны конь
З тваёй напорыстай паходкай сямімільнай!

# НЕ ХАЧУ АДСТАВАЦЬ

Жыцьцёвы бег так шпарка крочыць,
Жыцьцёвы бег так рвецца ўдаль,
Што нават думкай сваёй творчай
Я не магу яго дагнаць.

Сягоньня заўтрашнім ня зьмераць,
А месяц абганяе год.
І цяжка нават мне паверыць,
Як абагнаў мяне развой.

Вядома, цяжка стаць мне першым—
Мільённых тэмпаў не дагнаць.
Ў мільённым безе ўсё-ж ня сьпешу
Сябе я з творчага каня.

Хоць конь мой, можа, састарэўся,
Але я ведаю матор.
Калі-б і з перашкодай стрэўся,—
Я не скажу жыцьцю: „пастой!"

Я буду гнацца з усёй сілы,
За тэмпы стану я гарой.
Мяне эпоха ўсынавіла,
Дык буду-ж верным сынам ёй.

І за яе гатоў сягоньня-ж
Аддаць сябе, жыцьцё аддаць.
Ад тэмпаў творчасьці разгоннай
Ня хочу ні на крок адстаць!

# НА ПАРОЗЕ ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ

Пяцігодка праходзіць па-баявому—маршам
І ўжо набліжаецца, падыходзіць к канцу,
Чатырохгодзьдзе змаганьня і перамог нашых,—
Вітаньне героям яе і байцом.

Іх вітае краіна мая маладая
На фронце здабыткаў і перамог.
Дрыжы, дзівіся, капіталістычная зграя,
Які мы табе неўзабаве рэванш дамо!

Крызіс разьядае капіталістычны Захад,
СССР па гадзінах расьце—не па днёх.

Хіба каму калі сьніліся такія размахі,
Якія ёсьць на нашых фабрыках і палёх?!

Сьцішыўся на Захадзе нават прадаўца—юда,
Які ўвесь час злосна за падваротняй зьвягаў.
СССР—краіна Магніта—Днепрабудаў—
Пачала Захад даганяць ці пераганяць.

Першую пяцігодку неўзабаве закончым.
А за ёю ўсьлед другую распачнем тады.
Нездарма-ж у нас энтузіязм і размах творчы,
Нездарма-ж у нас бальшавіцкі і гарт і ўздым!

22/XII—32 г.

# БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕНЬНІКІ НА АДКРЫЦЬЦІ ДНЯПРОДЭС'у



Зьлева направа: Т. Андрыеску (Малдавія), Тэрэшчэнка (Укр.), С. Бараавых, Янка Купала, М. Лынькоў, Інжынэр Днепральстану Аляксандраў, т. т. Кулік, Гільдзін, Вішнеўскі (Украіна)




Беларускія пісьменьнікі на „Вуліцы Энтузіястаў" — новага гораду Днепральстану

СЬЦЯПАН НОРТМАН

# ІВАН ЯГОРАВІЧ

НАРЫС



І. Я. КОЗАК

Ад узрываў гарматных набояў стагнала зямля. Пераліўчаты трэск вінтовак і стракатаньне кулямётаў перамаўляліся між сабой.

Стагнала зямля і ўздрыгвала, нібы хто варочаў на ёй горы, якія рушыліся тысячатоннымі аграмадзінамі.

Пад гэтыя стогны і ўздрыгі зямлі стагналі, енчылі людзі, апранутыя ў шынэлі: шэрага сіняга і сівавітага колераў.

Енчылі людзі... Жывымі кавалкамі цела з адарванымі рукамі, нагамі, з запечанай крывёю на вуснах, з смагай, ад якой перасохла ў горле і патрэскалася нёба ў роце, прасілі літасьці і збавеньня.

— Ай-яй-яй-й-й! Божа, літасьцівы, за што?—пыталі людзі ў шэрых шынялёх.

І стогны людзкія, як і грымоты кананады, несьліся па полі...

Збавеньня ня было. Замест гэтага на ўсход і на захад імчаліся па абшарах „земли русской“ эшалёны з шэрым „гарматным мясам“, якое звалася расійскай арміяй.

Армія на колах чыгуначных вагонаў, на гасьцінцах у пешаходным парадку... Армія тупая, прыбітая ўсім, што робіцца, прымушаная ісьці за „веру, цара і айчыну“... Вашывая і брудная.

І целамі гэтае арміі ўсьцілалася поле Галіччыны і Прыкарпацкай Русі, горных вяршын Каўказу і пустэльных паўднёва-ўсходніх стэпаў...

І жах сьвяціўся ў вачох гэтых людзей. Жах чалавека, які глядзіць у вочы сьмерці-касьцістай і бязьлітаснай бабулькі. Гэты жах чытаўся ў шырака расчыненых вачох, як на старонках разгорнутай кнігі, з радкоў якой капала буйнымі кроплямі гарачая кроў.

Грымела кананада, і водбліскам пажараў ад спаленых вёсак, мястэчкаў і гарадоў асьвятляўся фронт.

Тысячы, дзесяткі тысяч людзей пакідалі родныя мясьціны і ехалі ў невядомую далячынь, у „матушку Расію“, далей ад жахаў, вайны і пажараў.

Не пасьпявалі людзі сабраць свой невялікі скарб, нажыты потам і кроўю, і ад'ехаць ад роднага месца, як па вуліцах начыналі мітусіцца коньнікі ў шапках з чырвонымі акалышамі, з чырвонымі і жоўтымі лампасамі на сініх портках. Стралялі ў паветра і пакінутую жывёлу, палілі хаты—спраўлялі свой вар'яцкі баль, каб не пакінуць ворагу „каменя на камені“.

Гэта звалася адступленьнем славутае „пераможнае“ расійскае арміі.

А выгнаныя казацкімі бізунамі людзі з торбамі за плячыма адмервалі доўгія-доўгія вёрсты, шырокімі гасьцінцамі і вузкімі дарогамі.

Ішлі, а на тварах былі напісаны адчай і роспач ад усяго, што нахлынула на іх.

Але такая ўжо імпэрыялістычная сыстэма і яе вечны папутнік—вайна. Нямногім мільённыя прыбыткі, а мільёнам—галеча, адчай і галодная сьмерць.

А з тысячамі, дзесяткамі тысяч такіх як і ён ехаў Іван Ягоравіч Козак з жонкай і малымі дзецьмі.

Шлях ад роднае вёскі, што была ў Віленскай губэрні, да Бахмачу, праходзіў перад вачыма, як на кіноэкране, і на ўсё жыцьцё ўрэзаўся ў памяць.

І быў ён усланы сьвежымі могілкамі дзяцей і сталых, што ня вытрымалі цяжкога вандраваньня. Над магіламі высьвістваў восенскі вецер хаўтурныя сьпевы, а сваякі памершага, змахнуўшы сьлёзы, ішлі даганяць абоз...

Сэрца сьціскала нібы абцугамі тое невядомае, што чакала наперадзе.

У Івана Ягоравіча, засталася ў вёсцы вузенькая палоска зямлі, хлеба з якой не хапала й на зіму, таму ён хадзіў па заработках. Адмаўляў сабе ў самым неабходным. Пазаду засталася галеча, але і наперадзе нішто не паказвала, што будзе добра.

— Як-жа быць? Што-ж далей? Што заўтра?—вось пытаньні, якія стараўся вырашыць гэты чалавек, выгнаны вайной з роднае наседжанае мясьціны.

* * *

У Бахмачы Івану Ягоравічу пашэнціла застацца чорнарабочым у дэпо. Незвычна было спачатку вясковаму жыхару сярод паравозаў і вагонаў.

Здавалася, што вось зараз адарвецца які-небудзь цяжар і прыдушыць. Не пабачаць тады жонка і дзеці яго—адзінага працаздольнага работніка ў сям'і.

Але дні ішлі і ім губляўся лік. Ды як ён мог, няпісьменны і цёмны, іх лічыць? Ішлі дні, пакідаючы ў думках многа пытаньняў, адказаў на якія ня мог знайсьці.

А калі ад чорнарабочага прасунуўся да сьлесара, быў задаволены тым, што падбівае і падпілоўвае падшыпнікі ды падганяе жалезныя палосы к дрэву.

А эшалёны ўсё імчаліся на паўднёвы ўсход і на захад...

І чырвоныя кроплі ад пралітае крыві рабіліся скарынкай... Высыхалі і пылам разносіліся па ветры.



Перагрузка ў Растоўскім парту калгаснага збожжа з калгаснага ветразьніка на машыны Саюзтрансу.

Чорныя груганы калышмацілі чалавечыя целы і пілі яшчэ незастыўшую кроў. Спраўлялі свой крывавы баль.

І цяжка было вырашыць, хто быў больш крыважэрным: груганы ці прадпрыемцы, прапагаўшыя на „армію“. Як у адных, так і ў другіх былі прагавітыя вочы, рэўніва сачыўшыя за сваімі канкурэнтамі.

Але як першым так і другім была выгаднаю вайна. Груганы мелі дастаткова крыві і чалавечага мяса, прадпрыемцы—прыбыткаў, купленых чалавечым жыцьцём, якім яны гандлявалі...

Ня ўмеў у гэтым разабрацца Іван Ягоравіч таму, што быў ён адарваны ад жыцьця, не перавыхаваны ў рабочым асяродзьдзі.

А калі нарасталі свае ўласныя крыўды, ён пра іх нікому не расказваў, таіў у сабе.

Толькі прышоўшы да хаты, перад тым як легчы спаць, клаў на лоб і груд і шырокія крыжы і прасіў у бога дапамогі, літасьці і заступніцтва.

Але „багі“ глядзелі з пачарнелых папяровых малюнкаў тупым і бестароньнім поглядам...

* * *

Калі хваля рэвалюцыі дакацілася ад Піцеру да Бахмача, Іван Ягоравіч прыняў гэту радасную вестку з сумненьнем.

— А калі зноў ды пастарому?

— Што-ж тады?

— ?

Усмоктанае стагодзьдзямі, падтрыманае штыхом і бізуном паважаньне да „самодержца-помазанника божия“ не магло хутка вывятрыцца са сьвядомасьці колішняга селяніна, сучаснага пралетара.

Гэта патрабуе гадоў упартае і цярплівае выхаваўчае працы.

Падзеі казалі самі за сябе і іх нямінучасьць, гістарычны ход Іван Ягоравіч прыняў цьвёрда і беспаваротна, хоць і падсьвядома.

Калі ў Бахмачы „панували“ пятлюраўцы, дзянікінцы, чэхаславакі і гайдамакі, калі чалавечая кроў лілася на траву і пясок, калі гэта кроў была братоў па клясе і таварышоў па рабоце, і калі дзянікінцы марылі пра „единую и не делимую“, а гайдамакі пра „казацкую вольніцю та Запорижскую Сичь“, гневам набухалі думкі Івана Ягоравіча і ён, сьціснуўшы зубы, затаіўшы крыўду глыбока, маўчаў дачасу...

* * *

Але вось адгрымела кананада, адлічылі сваю траскатню кулямёты, савецкая ўлада стала моцнай. Тады Іван Ягоравіч з яшчэ большай энэргіяй узяўся рамантаваць вагоны і паравозы, раз ураны чыгуначны транспарт.

З кожнай закручанай гайкай, з кожным цьвіком які заганяўся ў абшыўку вагона, з кожным падагнаным падшыпнікам, станавілася спакайней на сэрцы і радасьней на думках, што транспарт пачынае жыць паўнакроўным жыцьцём, а гудкі паравозаў раздаюцца на вагзалах і пры выхадзе з дэпо, імчаць пасажырскія і таварныя цягнікі ва ўсе бакі неабсяжнага Савецкага Саюзу.

* * *

У 1922 годзе пацягнула Івана Ягоравіча і жонку яго Мальвіну Мацьвееўну бліжэй к радзіме.

Тады па яго просьбе напісалі яму заяву, выходзячы з якой перавялі ў менскае дэпо. З таго часу ён працуе ў малым рамонце вагонаў сьлесарам 7-га разраду.

За гэты час дзеці: сын Лёнька і дачка Аля навучылі Івана Ягоравіча альфабэту і ён паволі, павярцеўшы спачатку ў руцэ асадку, некалькі разоў памачыўшы пёрка ў атрамант, прыкінуўшы на вока „адлеглас ць“, на якой трэба расьпі-

**Электрыфікуем савецкія шахты. Акумулятарны электравоз выяжджае з заходнай шахты імя ДПУ (Паўночны Каўказ)**



сацца, выводзіць сваё прозьвішча на разьліковым лістку.

Цяпер, маючы пяцьдзесят пяць год, якія кладуцца цяжарам на плечы, пабачыўшы на сваім вяку бяспраўнага жыцьця пры „царе-батюшке“ і перарадзіўшыся пасьля рэвалюцыі, Іван Ягоравіч у падарунак пятнаццатай гадавіне Кастрычніка ўдарным парадкам адрамантаваў два таварных вагоны.

Іван Ягоравіч і Мальвіна Мацьвееўна гадуюць маладую зьмену—сына і дачку—камсамольцаў. Лёнька працуе сьлесарам, а пасьля работы на вытворчасьці малюе лёзунгі і плякаты—выконвае грамадзкую нагрузку. Аля рыхтуецца на доктара і займаецца на трэцім курсе мэд-інстытуту. Вольныя вечары ад грамадзкай нагрузкі Лёнька аддае чытаньню літаратуры, з якой яму больш усяго спадабалася „Мать“ М. Горкага, захапляецца творамі Эптона Сінклера, чытае „Правду“ і расказвае бацьком.

* * *

Мінула сямнаццаць год, як пакінулі сваю родную мясьціну Іван Ягоравіч і Мальвіна Мацьвееўна. Тады была восень 1915 году. Восень, абмытая дажджамі і чалавечай крывёю. Тады былі роспач і адчай. Цяпер роспачы і адчаю няма. Старыя сьмела глядзяць наперад і ня трацяць надзеі пабачыць яшчэ больш радасныя дні.



**Дэлегаты раённай канфэрэнцыі ЛКСМ сустракаюць чырвоны абоз калгасаў (Новаалександраўскі раён, Паўночны Каўказ).**

# БАЦЬКАЎШЧЫНА



Сцэна II акту. Няміра вярнуўся з фронту (Няміра—акт. Глебаў)

Пра „Бацькаўшчыну"—спэктакль цалкам і п'есу ў прыватнасьці — гавораць і пішуць шмат. Розныя па-рознаму даюць ацэнку гэтай буйнай зьяве нашага тэатральнага жыцьця, але ніхто не адмаўляе апошняга, менавіта таго, што пастаноўка „Бацькаўшчыны" — зьява буйная, этап у рабоце БДзТІ, этап ва ўсім тэатральным мастацтве БССР.

Тое, што пра „Бацькаўшчыну" гавораць шмат, ужо сьведчыць пра тое, у якой ступені вялізарным зьяўляецца дасягненьне БДзТІ наогул і Кузьмы Чорнага, як драматурга, у прыватнасьці. Гэта дасягненьне захоўваецца ў першую чаргу ў вялізарнай філёзофскай глыбіні і сіле асноўнай ідэі п'есы, вырашэньне якой ўзьнімаецца талентам Кузьмы Чорнага да камуністычнага разуменьня катэгорыі „бацькаўшчына". Такім чынам, гэтая п'еса ідэалёгічна ўзьнімаецца значна вышэй нават раману „Бацькаўшчына".

З выключным па сіле трагізмам п'еса паказвае постаць Леапольда Гушкі, які ўвасабляе ў сабе найшырокія масы сялянства, што стагодзьдзямі рабства цягнулася да ўласнага кавалка зямлі, апантанага, так сказаць, ідэяй уласнасьці. Складаны і вялізарны шлях Леапольда Гушкі. Ён імкнецца да ўласнае хаты на ўласным кавалку зямлі, верыць, што апошні вызваліць яго ад рабства, ад жалезнай і нямілаэрнай залежнасьці ад багацейшых, на якіх ён працаваў. У жылах Леапольда Гушкі цячэ кроў сілескага ткача, бунтара па самой сваёй сутнасьці. Ягоныя продкі вымушаны былі кінуць сваю бацькаўшчыну — Сілезію, — шукаць іншае бацькаўшчыны, апынуцца ў дарэвалюцыйнай Беларусі, і бацькаўшчыны шуканай не знайсьці, бо любая краіна, дзе чалавек эксплёатуецца чалавекам, дзе пануе сацыяльны і нацыянальны прыгнет — любая гэткая краіна не ёсьць бацькаўшчына. Але да асмысьленьня гэтых ідэй прышоў Леапольд Гушка праз доўгую і складаную эвалюцыю, якую прарабілі асноўныя масы сялянства, прышоўшы да актыўнае чыннасьці ў рэвалюцыі. Да асмысьленьня гэтых ідэй Леапольд Гушка павінен быў прысьці праз набыцьцё сваёй зямлі, якая запрыгоніла яго яшчэ больш, праз адмаўленьне гэтай уласнасьці, праз адмаўленьне, здавалася, устойлівых катэгорый—бог, цар, праз часы раздарожжа і няверства, калі зьяўляліся думкі зноў паехаць „шукаць долі" ў пакінутую Сілезію, праз пратэст супроць існуючай сацыяльнай сыстэмы — спачатку нясьмелы, а потым — грозны і магутны. Кузьма Чорны з вялізарнай сацыяльнай і мастацкай сілай здолеў паказаць прыход Гушкі (сялянства) да рэвалюцыі, да Леніна, да сапраўднай сацыялістычнай бацькаўшчыны. Уласнасьць і баць-



Сцэна з І акту. Малебен перад адпраўкай на фронт.



Сцэна з І акту. Разьвітаньне.

каўшчына—вялізарнай актуальнасьці праблема, і вырашае яе Кузьма Чорны правільна, вырашае па-камуністычнаму. Да слова — хочацца заўважыць, што праблему ўласнасьці ставілі ў нас і старыя пісьменьнікі. Гэтую-ж, па-сутнасьці, праблему ставіў і Якуб Колас у сваёй па-майстэрску зробленай „Новай зямлі", і справа крытыкі цяпер распрацаваць і дасьледваць, чаму Колас ня мог узьняцца да правільнага вырашэньня гэтай праблемы і чаму К. Чорны, бяручы, па-сутнасьці, старую тэму, зрабіў яе новай, арыгінальнай.

П'еса Кузьмы Чорнага напісана ў густых, трагічных фарбах. Майстэрства пісьменьніка дасягае ў некаторых момантах (асабліва ў першай і другой дзеях) найвышэйшай удасканаленасьці, аднак гэта не выключае і цэлага шэрагу істотных недахопаў. Гэтыя недахопы асабліва выразна паўстаюць менавіта ў спэктаклі.

Кузьма Чорны валодае шырокімі эпічнымі мастацкімі сродкамі. Гэтая эпічнасьць уласьціва ўсім літаратурным творам пісьменьніка. Гэтая эпічнасьць п'есы—ёсьць дадатны і разам з тым — адмоўны бок п'есы. Дадатны ён таму, што выключная шырыня і багацьце тэксту дае невычарпальныя магчымасьці для выяўленьня акторскага майстэрства, для пабудовы глыбокіх псыхалёгічных вобразаў, але разам з тым, дзякуючы гэтай эпічнасьці, найбольш цяжка зрабіць дзейны фабульны спэктакль, спэктакль бесьперапыннага і лёгічна-непарыўнага нарастаньня кульмінацыйных момантаў п'есы, якія-б кіравалі ўвагай гледача і прымушалі апошняга з неаслабнай зацікаўленасьцю сачыць за разгортваньнем падзей. Гэты асноўны прынцып драматургіі не захаваны ў „Бацькаўшчыне", і менавіта з гэтай прычыны спэктакль рэзка падзяляецца на дзьве часткі, неаднолькава моцныя.

Асноўнае ў п'есе—гэта Леапольд Гушка, ягоная сацыяльная эвалюцыя, эвалюцыя праз адмаўленьне жыцьцёвых, „прыватных" ягоных догматаў (цар, бог, уласнасьць), праз адмаўленьне навязанай яму стагодзьдзямі рабства „бацькаўшчыны" — да рэвалюцыі, да Леніна, да бацькаўшчыны бяз двукосься, да бацькаўшчыны сацыялістычнай. Па-сутнасьці гэтая эвалюцыя канчаецца другім актам, калі на допыце ў твар прадстаўніка царскай улады Леапольд Гушка кідае гнеўныя выкрывальныя словы, што скідаюць усе і ўсялякія маскі з гэтай улады, калі Леапольд Гушка—усім ходам сацыяльных працэсаў — прыходзіць не да сваёй „прыватнай праўды", а да праўды сваёй клясы, прыходзіць да рэвалюцыі, да Леніна. Тут канчаецца п'еса, тут канчаецца вобраз Леапольда Гушкі, тут знаходзяць сваё найбольш поўнае выяўленьне драматургічныя якасьці Чорнага, сіла акторскай ігры Уладамірскага, сіла ўсяго тэатральнага колектыву ў гэтым паказе. Чацьвертая сцэна другога акту, дзякуючы сваёй сіле і завяршальнасьці, не забываецца. І, кажучы шчыра, застаецца нейкае нездавальненьне ад таго, што глядзіш яшчэ два акты, трэба сказаць адкрыта—слабыя і непераканальныя. Яны слабыя таму, што выразным і зразумелым зьяўляецца далейшы поступ Леапольда Гушкі, гэты вобраз высьветлены і яму, па-праўдзе кажучы, няма чаго больш рабіць. Яны слабыя таму, што ў іх няма багатае і сакаўное мовы людзей; гэтая багатая і сакаўная мова—канкрэтная і выразіцельная ў першых двух актах — пераходзіць у мову абстракцый. Яны слабыя таму, што ў іх мала сапраўднага Кузьмы Чорнага, а больш тэатральных эфэктаў, больш рэжысэрскіх намаганьняў тэкставую слабасьць рэабілітаваць то жанравай інтэрмэдыяй („Манархісты"), то эфэктнай мітусьнёй людзей, сьвятла і гукаў („Кастрычнік", узяцьце ратушы). Гэта ўсё ня мае ніякіх адносін да Леапольда Гушкі, і таму гэта зьяўляецца непатрэбным. Гэтыя акты, відаць, пабудаваны выключна для паказу Паўла Няміры, для таго, каб абгрунтаваць ягоны прыход, ягоную эвалюцыю. Але-ж гэты прыход, гэтая эвалюцыя, па сутнасьці, ёсьць паўтарэньне пройдзенага Леапольдам Гушкай,—Паўла Няміра—гэта Гушкава рэха, ягоны двайнік.

П'еса „Бацькаўшчына" пабудавана выключна на прынцыпе кантрасту. Вазьміце лепшыя сцэны яе—вясельле, у хаце Гушкі ды інш. — усе яны пабудаваны на кантрасьце і захоўваюць, дзякуючы яму, драматургічную сілу. І вось калі гэтая кантраснасьць адсутнічае—няма п'есы. Менавіта



Цывін (акт. Зораў).



Леапольд Гушка (акт. Уладамірскі)



Сцэна з II акту. Допыт Цывіна ў жандарскага палкоўніка (акт. Шалко)

Фото М. Рывіна

Камсамольцы клічуць свайго адсэкра „таварыш камандзір“ і рэдка, толькі на сходах, па прозьвішчу.

— Далібог, памылка. А чаму здараецца, і сам ня ведаю.

— Ён правы,—спачуваючы кажа мне Лебядок.— Ён добры стралок, і ўся работа яго першага гатунку. Ён у нас хлапец з лепшых.

Іваноў задаволена ўхмыляецца. Здаецца, хоча сказаць ён мне:

— „Я зусім ня кепскі стралок, як гэта думаеце вы, а памылка бывае ў кожнага“.

Лебядок вядзе мяне зноў да стала, пачынае перагартаць блёкнот, бесьперапынна змочваючы палец сьлінаю.

— А вось раней былі ў нас хлопцы—стралялі на „вудачку“. Не па-варашылаўскі стралялі. Але раз мы ў самаабавязацельствах па сацспаборніцтву заявілі: „Страляць толькі на „добра“ і на „выдатна“, то „вудачцы“ ня можа быць месца.

Ён паклаў на стол пачку аркушоў, сьпісаных роўным і каравым почаркам. Гэта камсамольскія самаабавязацельствы да абмену білетаў. Пункт: „Страляць ня ніжэй чым на „добра“—быў тлуста падкрэсьлены чырвоным алоўкам. Было гэта асаблівай адзнакай увагі да стралковай падрыхтоўкі з боку ячэйкі.

— Ну, выходзіць і ня выканалі абавязацельства,—заўважваю я.—Іваноў падкачаў. Што-ж гэта ты, таварыш Іваноў?

— Гэта нічога, не сьпяшайцеся,—усхвалёвана папярэджвае мяне Лебядок.

Лебядок памаўчаў і перавёў гутарку на мэтады работы ячэйкі.

— Наважылі мы дабіць „вудачку“.

— І як-жа, якім мэтадам?

— Ды, мэтад вядомы. Шэфства, спаборніцтва. Вось камсамолец Другачонак, гэты самы вось,—яго зрок спыніўся на рыжаватым, з крыху нібы абыякавым тварам чырвонаармейцы, страляў на „вудачку“ раней. Тое-ж самае і Пенцін. Пенцін, што ты там чытаеш, ці ня чуеш, што аб табе гавораць? Пенцін узьняў засаромлены погляд ад газэты і нічога не адказаў... Вось мы і ўзяліся за іх. Па-камсамольску. Здорава, ведаеце, узяліся. Да Другачонка прымацавалі добрага стралка Арашонка, а да Пенціна—Галавешкіна. От брат наш Галавешкін,—ён, згодзен з лепшымі стралкамі спаборнічаць,—толькі кажа, дайце мне патрэніравацца ўволю.

— Пакіньце, таварыш камандзір. Ды я і страляю ня так ужо добра. Так, крыху,—скромнічае Галавешкін.

— Ну, зразумела, перш на перш шэфы заняліся вывучэньнем сваіх падшэфных. І аказалася. Другачонак нэрвуецца ў часе стральбы, сморгае за спускавы кручок, а ў гэты час адхіліцца вінтоўка ў бок ледзь-ледзь на валасок, а там глядзіш, на цэлы мэтр у бок палягуць кулі. А Пенцін другой хваробай хварэе—ня ўмее правільна браць мушку. Ну, а раз вядома, чым хварэюць хлопцы, то і пачалі шэфы нацiскаць на хворыя месцы. Ляжыць, бывала, за кулямётам Другачонак і трэніруецца ў наводцы, а Арашонак побач, сочыць, правярае.

І так да таго часу, покуль Арашонак ня спусьціць плаўна спускавы кручок. А потым раз дзесяць так,—замацоўвае дасягнутае.

Тое-ж самае і Галавешкін з Пенціным рабіў. Той па пантографу правяраў аднолькавасьць працэльваньня, вялічыню расьсейваньня і таксама выпраўляў, радзіў, паказваў прыкладам.



Паўночны Каўказ. Дамы для спэцыялістаў. У пасёлку навучальна-вопытнага збожжа саўгасу № 2 (б. „Вярблюд“)

Здорава працавалі шэфы. Увечары на „талерачцы“ *) гармошка заліваецца, скачуць, гамоняць хлапцы, а Арашонак у ленкутку поўзае па падлозе са сваім падшэфнікам. Так, так, працавалі.

Лебядок на хвіліну спыніўся, падумаў і працягваў:

— Да таго-ж работа ішла па лініі ўсёй ячэйкі. На сходах з хлапцамі гутарылі. Моў, абавязаліся, дык трымайцеся разам з намі, не адставайце. І ў ільлічоўцы таксама моцна пісалі. Асабліва, вед еце аб Пенціне, як ён вялікую мушку бярэ і кулі за „малаком“ пасылае. Усяляк дзейнічалі.

— Ну, а якія-ж вынікі?—нецярпліва спытаўся я.

Тав. Лебядок, як відаць, чакаў гэтага пытаньня. Твар яго зрабіўся—радасным.

— Вось, брат, вынікі, вось.—І ён раптам ускочыў, пайшоў да стралковага аркуша і як-бы наўгад тыкаючы пальцам у графу „Залікове практыкаваньне па другой задачы“ усхвалёвана прачытаў:

— Лебядок, я значыць—выдатна, Арашонак—выдатна, Іваноў—выдатна, Пенцін, той самы Пенцін, выдатна. І вось Другачонак, таксама быў слабы, а зараз вось бачыце, выдатна. Глядзеце, усе камсамольцы на выдатна. Бачылі?

Я ўважліва паглядзеў на адсэкра камсамольскай. І толькі зараз заўважыў, што быў яго твар пругкі і рухавы. Твар, на якім радасьць асабліва яскрава, асабліва выразна.

---

*) Талерачка—пляц у Полацку.



Менск. Кацельны цэх цукерачнай фабрыкі „Камунарка“.

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. 12382 Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 308. 2.500 экз. Уп. Горліт № 10.

# Каапэрацыя інвалідаў БССР

Галоўнай задачай каапэрацыі інвалідаў зьяўляецца замена старой формы сацыяльнага забесьпячэньня створанай буржуазнай грамадзкасьцю, новай формай, якая-б выходзіла з асаблівасьцяў сацыялістычнай грамадзкасьці.

Каапэраваньне інвалідаў грамадзянскай вайны, працы і чырвоных партызан і іх працустройства мае наступны выгляд: да пачатку 29 г. каапэр 1568 ч., а к канцу мінулага году —2783 ч., або рост на 77,5 проц.

Капітальныя ўкладаньні далі вельмі значны рост: у 1929 г.— 275 т. р., а ў 32 г.—да 1 м. р. Разам за пяцігодзьдзе павялічэньне маёмасьці складае на 2,1 м. р., пры чым упор дадзены на мэханізацыю вытворчасьці, жылбудаўніцтва, пабудову клюбаў і г. д.

Адначасова расьце і паепакапленьне: калі паявы фонд у 1929 г. складаў 136 т. р., дык зараз ён дасягае 321,3 т. р.

Гандлёвая дзейнасьць дае наступны малюнак: варот за 29 г. 4,5 м. р., а ў 32 г. ён дасягае 12 м. руб.

З ліку выпрацоўваемых вырабаў трэба застанавіцца на ланцугох „Гадзя“ (арц. інв. № 3 у Менску), якія раней завозіліся да нас з-за мяжы. Абсталяваньне (машыны і штампы) набыта арцельлю выключна ўласнымі сродкамі, а самыя машыны сканструяваны тэхнічным кіраўніком цэху т. Ланкратавым, пры чым канструкцыя іх ёсьць вынаходніцтва апошняга і значна перавышае тыпы гэтых-жа замежных машын.

Арцель пачала выпуск ланцугоў ад 30 шт. у дзень, а ў 33 г. мяркуецца даць 120 шт., або 35 т. шт. за год.

На раду з дасягненьнямі сыстэма мае і шэраг недахопаў.

Агульнае выкананьне прамфінплану за 8 месяцаў складае 64,1 проц. Па паасобных галінах мае наступны выгляд: швецкая 97,8 проц., рымарная 99,4 пр., паліграфічная 106,3 пр. харчсмакавая 49,8 проц., ватная 52,6 проц., мылаваная 30,8 пр., дрэваапрац. 59,5 проц.

Паасобныя арцелі плян выконваюць з перавышэньнем— Менск—„Іскра“ 113,6, Гомель—„Каапэратар“ 100 пр., Ворша—„Камунар“—106 пр., наадварот Бабруйск „Бальшавік“ 42 проц., Магілеў — „Інпрамгандаль“ — 35 проц., Мазыр—„Чырв. Кравец“ 23 проц.

Па сыстэме складзены і зацьверджаны Дзяржплянам пляны на II-ю пяцігодку з наступнымі асноўнымі паказчыкамі: каапэраваньне прадугледжваецца ў колькасьці 5417 ч л. Выпуск валавой прадукцыі за 5 г. прадугледжваецца ў 177 мл. р. Капіталаўкладаньні мяркуецца давесьці да 19 мл. руб.

Жытамірскі.







## У Д А Р Н І К І


Паўлюк Зерняўка


Міхась Русальскі


Віктар Талочка


Адам Левановіч

## …зьвіцьце ашчадсправы ў БССР

…і парозе другой пяцігодкі, маючы вялізарныя посьпехі, дасягн…ыя рабочай клясай пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, …інна быць адзначана сур'ёзная роля сыстэмы ашчадкас як …ніцы дадатковага фінансаваньня нашага будаўніцтва.

…акліканая дэкрэтам ураду ў сьнежані 1922 г. да жыцьця …чаўшая ў БССР сваю працу ў 1923 г., сыстэма ашчадкас …нчвае першую пяцігодку са значнымі посьпехамі.

…а тэрыторыі БССР распаўсюджана масавых пазык усяго …суму 142,5 мільёнаў рублей (пачынаючы ад 1-й пазыкі …устрыялізацыі). Рашаючую ролю ў агульнай суме рэалі…ыі пазык адыгрывае група рабочых і служачых, на якую …ае 108,5 млн. руб., альбо 76,1 проц., на групу іншага га…зкога насельніцтва падае 7,9 проц., а на сялянства ўсяго … проц. Суадносіны між рэалізацыяй пазык у горадзе … проц.) і на вёсцы (16 проц.) паказваюць яўнае адста…ьне ў справе распаўсюджваньня пазык на вёсцы.

…ынаміка разьмяшчэньня масавых пазык у БССР паказвае …чны, з года ў год, рост дзяржкрэдыту і сапраўднае ука…еньне аблігацый савецкіх дзяржаўных пазык у шырокія …ы працоўнага насельніцтва.

…алі першая пазыка індустрыялізацыі (першая масавая па…я) была ў БССР рэалізавана ў суме 2.702 тыс. руб., дык …шняя пазыка—пазыка „4-га завяршаючага году пяцігодкі" …лізавана ў суме 47,9 млн. руб.

…галіне ашчаднае справы пры агульным, вельмі значным, …ьце з года ў год астачы ўкладаў і кліентуры, якія дася…ць: астача ўкладаў—32.254 т. р. і лік укладчыкаў—848.400, …сама павінен быць адзначаны марудны тэмп разьвіцьця на …цы, дзе ўдзельная вага складае ўсяго 40 проц. агульнай …ы ўкладаў.

…олькасьць ашчадкас, якая ў 1923-24 г. складала 219 кас, …аз вырасла да 1.745, у тым ліку ў горадзе 420, а на вёсцы …25. Трэба адзначыць, што разгортваньне нізавой сеткі …ываецца шпаркімі тэмпамі пасьля ліквідацыі акруг і арга…цыі ў сыстэме ашчадкас—раённага зьвяна, якое зьяўляецца …оўным і стала арганізацыйнай базай для пэрыфэрыі.

…дставаньне ашчаднае справы і дзяржкрэдыту ад вял зар…к магчымасьцяй, маючыхся ў нашай краіне алносіцца, …оўным чынам, за конт недастатковай масава-палітычнай …цы вакол ашчадкас, дзяржпазык і асабістага страхаваньня. …ератварэньне ашчадных кас у сапраўдных арганізатараў …авых зьберажэньняў на справу пабудовы сацыялізму—…ава гонару ўсёй фінансава-крэдытнай сыстэмы і шырокай …мадзкасьці. Сталае кіраўніцтва працай ашчадкас з боку …цовых партыйных і савецкіх органаў—зарука пасьпяхо…а вырашэньня гэтых задач.

**М. ПАЛЕЕС.**

### …ЫНАМІКА …ОСТУ ЎКЛАДЧЫКАЎ (у тыс. руб.)




### …СТАЧА ЎКЛАДАЎ (у тыс. руб.)




## РЭАЛІЗАЦЫЯ МАСАВЫХ ПАЗЫК (У ТЫСЯЧАХ РУБЛЁЎ)



**ПЕРШАЯ ПАЗЫКА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ — 2702**



**ДРУГАЯ ПАЗЫКА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ — 10264**

**ТРЭЦЯЯ ПАЗЫКА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ — 17971**

**ПАЗЫКА ПЯЦІГОДКА Ў ЧАТЫРЫ ГАДЫ — 20075**

**ПАЗЫКА ТРЭЦІ РАШАЮЧЫ — 43597**

**ПАЗЫКА ЧАЦЬВЕРТАГА ЗАВЯРШАЮЧАГА — 47953**